*Няхай жыве саюз рабочых і сялян*

# ЧЫРВОНЫ СЕЙБІТ

ДВУХТЫДНЁВЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ДАДАТАК ДА „БЕЛАРУСКАЙ ВЁСКІ“

**№ 16.** Серада 31-га жніўня 1927 г. **№ 16.**

## ВЫЙДУ НА ПОЛЕ

З. Бульбянік

Выйду я з плугам на поле,
Рана да сонца пад бор.
Як міла чароўна наўкола,
Красуе шырокі прастор.

Неба вісіць парасонам,
Сінее высокая даль.
Балота—з зялёным узорам,
Іржышча—пунсовы паркаль.

Гарыць на ўсходзе зарніца
Настурцамі рдзее ў красе.
Кожная траўка іскрыцца
Купаецца ў срэбнай расе.

Лубін купчасты, зялёны
У кветках блакітных, густы
Заворваю я на загоне
Пад цёмныя скібы-пласты.

Плачаш, сумуеш расою,
Калючы асот каля меж.
З труны нібы векам—зямлёю
Накрыю, ты згінеш, памрэш.

Пуховае поле—падушка
Будзе зярнятам пасьцель.
Рунь на палосах на стужках
Хай шоўкам узойдзе, расьце.

Тлустая, чорная глеба
Сэрданька цешыць цяпер.
Дзе плакаў тут дзед, ня меў хлеба,
Ад працы быў мокры каўнер.

Шырокае, доўгае поле
Гэта-ж тут мілы мой край.
Ён з прэдку веку быў голы
Цяпер-жа багацьцем зазьяй.

Люблю з плугам выйсьці на поле
І рана да сонца пад бор.
О, любы край бачу наўкола,
На ім беларускі ўзор.





Капаюць бульбу

# Паслушная жонка

**Якуб Колас**

I

Эх, Тацянка! Эх, дзяўчынка!
Дзе радзілася яна?
Таня—гожая былінка,
Таня—красачка-вясна.
Не дзяўчына—чараўніца,
Сьвет схадзі, такой няма,
І ў палацах-камяніцах
Будзеш ты шукаць дарма,
Бо ня знойдзеш такой кралі,
Як Тацяна Чабарок.
Губкі тыя—ну, каралі,
Бровы—дужачкі-шнурок.
Тонкі стан і тварык белы,
Вочы-зоры—ясны дзень,
А як кіне погляд сьмелы,
Так і згоніць з сэрца цень.
Дух захвацiцца хлапчыне,
У крыві агонь гарыць,
Як вачамі толькі ўскіне
Або сьмехам адарыць.
Сохлі хлопцы па Тацяне,
Увіваліся за ёй
На вячорках ці гуляньні,
Ды ў Тацяны нораў свой.

Ну, і непакорная,
Ну, і наравістая—
Не кажы да трох!
Бойкая, праворная,
Гора з ёю чыстае,—
Ох, Тацянка, ох!
Толькі і камандуе,
Толькі і загадвае—
Любіць весьці рэй.
Ходзяць хлопцы бандаю,
Ды гадаюць надвае
Цішка і Андрэй.
Ажаніся—клопату
Набярэшся многа ты,
Нажывеш бяды.
Будзе шуму-лопату
І людзкога рогату
І сьвішчы тады,
Хочацца і колецца—
Лёгка заняволіцца:
Дзеўка—крапіва!
Ходзяць хлопцы, галяцца.
Думкі-ж як наваляцца—
Ходзіць галава.

На ўсе рукі хват Даніла,
Спрытны хлопец і дужэц.
Ростам—сажань, плечы - сіла,
Адным словам маладзец.
Толькі-ж... Эх, падбіт Даніла.
Чым? Дзявочым харaством...
Эх, Тацяна! Што зрабіла
Ты з Данілам-малайцом.
Дый Тацяна маладая,
Калі праўду ўжо сказаць,
На Данілу паглядае
Больш, як трэба паглядаць.
А Даніла не нарокам
Таню-любку пакахаў.
Аб красуні сінявокай
Сьніў і марыў і ўздыхаў.
І як ён тут ні стараўся
Чары любасьці разьбіць,
Але сам сабе прызнаўся—
Бяз яе ня можа жыць.
І што там ні стане—
Яго будзе Таня.
А сам кажа: „Быць ня можа—
Уламлю цябе, нябожа
Будзеш шолкавая ты!"
І да Тані йдзе ў сваты.

II

Жывуць Таня з Данілаю,
І цешыцца ён мілаю,
А сам ходзіць злы, пануры,
Нездаволены і хмуры

# Напасьць

**Кастусь Палявецкі**

I

Толькі сеў па зьмярканьні Даніла за стол, каб вячэраць, падыходзіць пад акно сельсаветчык і ў шыбу барабаніць.

— Чаго там трэба каму?

— На сход да Дзямяна!

— Добра.

Павячэраўшы высунуўся Даніла на сход. Думаў пра падатак, пра дровы, што скажуць, ажно яны таварыствы нейкія ўздумалі.

З Рыку адзін там гадзіну пра торп разводзіў гаворку. Кажа: дроў мала даваць будуць, трэба торпам печы паліць, трэба таварыства гарнізаваць, паі палажыць. Усё з людзей скубуць. Усякі чорт на людзкія грошы ласы. А каб што даць—ніводзін ні заікнецца. Дай грошы якому басяку (свайму ці чужому), а ён тады табе хвігу пакажа за гэта. Ды дзе ён людзям угаворыць. Людзі свой розум маюць. Ці-ж ня лепей, у санкі каня ўшчаміўшы, у лес махнуць. Хто-ж гэта паслухае? Каму хочацца ўлетку, у самы рабочы час, з жалязьняком, як буслу, па балоце лазіць.

Толькі штукавалі з гэтага мужчыны:

— Саўка ў таварыства хоча запісацца,—сталым голасам падаткне хто з гурту і сам ціханька аж кісьне са сьмеху.

— Саўка! Як ваша прозьвішча? — ужо рыхтуецца ўкрэмзаць яго той, з Рыку.

— А слухайце, што брэшуць. Аб вугал-бы каторы пачухаў язык, калі сьверб узяў!

І ацерабіўся Саўка.

А чалавек з Рыку зноў чакае, што скажа натаўп.

І на словы з ёю скупы.
Дзьмецца ўсё, бы мыш на крупы.
Жонка толькі паглядае.
Ды нічога не згадае.
„Чаго смуцен мой Даніла?
Ці я чым не дагадзіла,
Ці ўжо стала нямілаю,
Што глядзіць ёй магілаю.
Запытаю раз самога,
А ён толькі буркнуў строга;

„Будзеш усё ведаць,
Хутка пастарэеш“.
Лепш давай абедаць—
Потым зразумееш“.

Прамаўчала маладзіца,
За стол мужа просіць сесьці,
Бо спрачацца ці гадзіцца?
За стол селі, сталі есьці.
А тут пеўнік дзесь з-за печы,
Як і робіць ён спрадвеку,
Ці ў свой час ці не дарэчы
Як зацягне—ка-ка-рэ-ку!
Разлаваўся наш Даніла
І за печ зірнуў ня міла.
— Кыш, маўчы! — Маўчы, зараза!
А ні чхні!—А певень—зноў!
— Крыкні, ну, яшчэ з поўраза—
Галава твая далоў!
А Тацянка зірк на мужа
„Гэ, ня ўжо ты злы такі?“
І спалохалася дужа,
Аж калынула пад бакі.
Пеўнік, дурань, ня стрымаўся,
Галаву ў гару задраў—
На поўпесьні абарваўся,
Бо Даніла ня ўтрываў—
Хоп за пеўня! На калодку,
Гал ву нажом адсек!
Жонку кінула ў дрыготку.
„Ну й сярдзіты-ж чалавек!“
А Даніла хоць-бы слова,
Кінуў пеўня, сам за стол.
Таня пеўніка ў прыпол,
Скубе пер‘е адмыслова,
І так спрытна, глянуць міла—
Каб ён толькі не злаваў.
Адвярнуўся у кут Даніла,
Сьмех яго апанаваў!
Ды нічым тут не азваўся
І ўсё злосны, бы той воўк.
А тут кот адкуль ні ўзяўся
І пад локаць яму—тоўк!
— Псік! Ня лезь! — А коцік
трэцца.
— Таўкані яшчэ—капут!
Тут Тацянка як сарвецца!
— Псік, дурніца-шалапут!—
Сама-ж думае сабе:
„Секане ката па лбе!“
За катка і хоп за дзьверы!
— Псік! Хавайся! Уцякай!..
І сярдзіты-ж ён бяз меры!
Ой, Данілу не чапай.
Ой, Даніле не пярэч—
Галаву гатоў адсеч!—

III

У вольныя хвіліны
Зьбіраюцца мужчыны
На прызьбе ці так дзе.
І гутаркі жывыя,
І жарты дармавыя,
І сьмех тут загудзе.
Ну, словам, як вядзецца,
Гаворка іх пляцецца,
Ня знаючы цанзур
Ні густу літарацкага,
І слова забіяцкага
Ня чэшуць тут пад шнур.
Гаворка йдзе супольная,
Квяцістая ды вольная,
Як коціцца той вал,—
Бяз поваду, бяз вобруці,
Усім вядома, добра йці,
На ліха тут капрал?
Затое-ж, мае братцы,
Як спрэчкі разгарацца—
Паслухаць іншы раз!
Зашла і тут гаворка—

Пярэднія маўчаць, а ззаду, як у бары ў ветранны дзень, у паўголаса нешта дудукае, гамоніць народ; аднастайныя галасы яго зьліваюцца ў адзін—нічога ні разьбярэш.

Ні ачарніўшы, ні абяліўшы разышоўся сход.

Даніла з сваім суседам Паўлам, зьвярцеўшы па папяросе, па задзе ўсяго сходу пашлі даведацца на зборню.

Даўгі вечар у піліпаўку. Збрыдзее яго прасядзець аднаму, як таму воўку, дома, калі ня маеш працы ў руках. Вось у гурце—іншая рэч. Адзін там скажа праўду, другія прылгуць крыху і вечар ніўзаметку пралагоняць.

І Даніла, сьледам за другімі, дзень у дзень, як толькі зьмеркнецца на дварэ, брыдзе ў другі канец вёскі да Ахрэма, каб хаўрусам прагнаць маркотнасьць зімовых вечароў. Туды й цяцер яны накіраваліся.

Большая частка гэтага вечару прайшла ў спрэчцы Яські з Нічыпарам. Адзін казаў пра маладзік, другі—пра сход. Толькі разыходзячыся дадому, пагадзілі іх мужчыны, аднагалосна прызнаўшы Яськаву праўду.

Ужо бралася пад поўнач, як Даніла прышоў з сяла.

Першае, на што ўзяў ён увагу, увашоўшы ў хату,—быў страшэнны холад у ёй: хоць ваўкі ганяй, як кажуць. Вокна пазіралі на яго, як мядзьведзі. На корха лёду, а поверх яго—сьнегу сядзела на іх. Пазяхнуў Даніла, глянуўшы на ложкі, дзе, укруціўшыся з галовамі ў коўдры давала храпунца ўся сям‘я і густы белы дух, як з коміну дым, шугнуў з роту.

„Да чаго дажыўся! Як тыя кулікі—падумаў ён.

І ўзбрыло на розум тое, што ўжо даўно мае ён на прымеце і разоў колькі да ма-

Даруй ты мне, Тадорка:
Зачаў яе Тарас,
Хто мае жонку слаўную,
Паслушную ды спраўную,—
Ну, словам пра жанок
Крычалі, аж стаміліся
І чуць-чуць не пабіліся
З Будзілкам Лагунок.
— Куды варты вашы бабы?
Да работы яны слабы,
А вось Тэкля, дык але!
Баба першая ў сяле!
І паслушна працавіта,
Да работы прагавіта—
Уварві ды падавай!—
Хваліць жонку Каравай.
— Што! — крычыць Пятрусь
Тачыла:
— Мая Ганка—ўсім прыклад!
— Ці-ж? А мешалкай вазіла?—
Пятруся кальнуў Ігнат.
Крык і гоман разрастаўся,
І канца ім ня відаць.
Тут стары Базыль падняўся.
— Хлопцы, ша! На што крычаць?
Крыкі спрэчкі не разьвяжуць.
Слухай, Пётра і Кандрат.
Няхай нам жанкі пакажуць
Тэй паслушнасьці прыклад.
Палажылі громадою
Жонкам пробу ўчыніць...
Пётра, справа за табою—
Годзі, досыць гаманіць!—
Рушыў Пётра першы з места
І махае рукавом:
— Эй, Ганyля! Скажу нешта.
Ну, скарэй адно, бягом!—
Ганна, праўда, падбягае,
Нос уцёршы аб падол.
— Ну, чаго табе?—пытае,
Азіраецца вакол.
Змоўклі хітрыя мужчыны.
Муж пачаў свой прыгавор:
— Ганна, бачыш? унь драбіны—
Зацягні іх на свой двор!
— Што?!—Ганyля перабіла:
— А бадай ты не дождаў!
Або я табе кабыла,
— Каб мяне ты запрагаў?
Так Пятруся адчытала,
Што Пятрусь, як пень стаіць,
І ў другіх ахвота пала
Баб пры людзях зачапіць.
Тут Даніла засьмяяўся,
Стаў наперад і сказаў:
— Я таго не спадзяваўся,
Каб верх бабе муж аддаў.
Вось Тацяна—срэбра літа.
Хто тут з вашых ёй раўня?
І разумна, працавіта
І пакорна, як ягня...
Эй, Тацяна! Сюды жыва!—
Міг—зьяўляецца яна.
Падбягае і маўклíва—
Мусіць помніць пявуна—
На Данілу пазірае.
А ён толькі ссунуў броў:
Бач—цялежка унь старая—
Зацягні яе дамоў!—
І Тацяна—за драбіны
Ды бягом з канца ў канец!
— Во Тацяна малайчына!
Во Даніла маладзец!

1909 г.



лой макулíначкі абсайміквана з Данíліхаю.

Думкі круцяцца там, дзе за вярсты дзьве ад вёскі па скарбовым полі йдзе дарога ў двор. Гэтакія ўдалыя клянкі вартуюць яе па бакох! Вось каб спусьціць каторы. На тыдні два печы роскаш даў-бы. А далей—бог бацька. Там сельсавет мае даць з паўсажня.

Заўважыў, як у Паўлавай хаце (цераз вуліцу) пагас агонь.

„Цяпер—зручна“ падумаў ён.

Падкруціў трохі агонь у лямпе, што дагэтуль кашэчым вокам глядзела ў цемрацьхаты.

— Лявон! Чуеш? Уставай!—узяўся пароць сына, каб зьезьдзіць „у пасяку“.

— Успароў яго чорт ад поўначы,--пераварочваючыся на другі бок з прасонку бушаваў Лявон. Моцна пацягнуў праз нос паветру і зноў захроп.

Але Даніла ня сунімаўся, тузаў яго.

— Чаго прысьпела?—ужо седзячы на ложку і аберуч трычы заспаныя вочы, асыкаўся Лявон, злосны, што ні даюць задрамаць. А падняўшы да столі вочы, убачыў як вус гадзіньніка, сунуўся к 1.

— Паедзем, сынку, у пасяку,—бацька жартуючы разьвясельваў яго.

— Сасьніў можа што.

Але хоцькі ня хоцькі, забэрсаў Лявон лапці. Запрэглі коніка-сібіраку і махнулі з двара; толькі заскрыпелі намёрзшыя пяньчаныя заваротки.

Ціха драмалі хаткі абапал вуліцы пад белымі аблавушкамі—стрэхамі. Хоць-бы хто дзе шаснуў. Нават, сабакі голасу ня ўказалі.

„Такі Яськава праўда“,--думаў Даніла, кіруючы ў кал-

# Нагаспадарыў

## І. Дубок

У Тодара Казловых штодзень ішла сварка і лаянка. Гэта сын і бацька ваявалі між сабою, але так ваявалі, што ўсю вёску зьбіралі.

— „Няхай-бы ты маленькі задушыўся, няхай-бы цябе пярун забіў, як ты не даеш мне супакою,—казаў стары Тодар свайму дваццацігадоваму сыну Міхасю.

— А вось-жа бачыш ня толькі не задушыўся і пярун не забіў і не заб'е, а ўзрос на тваю галаву. Няхай-бы ты ўжо паміраў хутчэй, а то паміраеш, паміраеш ужо гадоў дзесяць, а ўсё жывеш.

— І буду жыць, на злосьць валацузе! Вон з маёй хаты! Паскуднік, брыдота. Ён ужо гаспадарыць захацеў? Ты-ж яшчэ каня ня ведаеш як запрэгчы ў калёсы, задам ці перадам, злодзей ты!

— Я яшчэ і цябе навучу, як запрагаць каня, ці задам, ці перадам, абы цягнуў. А калі ты кажаш, што я злодзей, дык хто-ж мяне гэтаму навучыў, як ня ты!

— Вон, ліха тваёй галаве, вон, каб і сьледу твайго тутака ня было. Для цябе-ж паскудніка краў, цябе гадаваў на сваю галаву. Вон, кажу!..

— Не прагоніш, ня вельмі спалохаўся Не такі цяпер час, што можаш прагнаць. Бач ты яго, чаго захацеў. Калі табе цесна, дык можаш сам выйсьці вон, а мне і тут ня цесна.

І гэтакія пацеры адбываюцца між сынам і бацькам кожнай раніцы, а асабліва ў нядзельку.

Гаспадарка ў Тодара была невялічкая: два кавалкі пахаці, паўтара гэктара сенажаці, карова, кабылка старэнькая, як і сам Тадор, хата небам пакрытая, хлявушок і гуменца на рублёў сем. Вось і ўся яго маемасьць. На ўсю гэтую нікчэмную гаспадарку былі два гаспадары: Тадор і яго сын Міхась.

Кожны з іх хацеў быць гаспадаром, камандзірам. Кожны з іх цягнуў з хаты апошні фунт збожжа і гаспадарка з кожным годам не папраўлялася, а раскідалася. Бацька і сын рабілі, што хацелі і калі хацелі, ад чаго гаспадарка гінула, у той час, калі суседзі мелі такую-ж самую гаспадарку, жылі між сабой згодна і яны з кожным годам мацнелі, ня гледзячы на тое, што і сям'і было па пяцьшэсьць душ.

Людзі сьмяяліся з іх сваркі і спрэчак, часта мірылі іх, але ладу ўсё роўна ня было ў хаце.

У самае жніва захварэў стары Тодар, але так нечакана захварэў, што ня мог сам устаць з пасьцелі.

Захварэў Тодар і заплакаў, але не ад таго, што захварэў, а ад таго, што сын пачне самаўласна кіраваць гаспадаркай.

Міхась раней не зьвяртаў ніякай увагі на хваробу бацькі і думаў, што той ня

---

дабан, другі, трэйці... у канцы вуліцы—сьляды вялікага мноства перавезенных сюдэю сялянскіх хурманак з лесам на бліжэйшы вакзал; пазіраў на чорнае, хмурнае неба.

Як слова было казаць, былі яны ў прысадах. Заківалі галовамі маладыя клянкі; сустрэнутым падарожнікам нізка кланяліся; а паміж сабою ўсё шэпты вядуць, голымі галінкамі трапечуць.

І выбралі падарожныя таўсьцейшы з іх. Заварушыліся наўкола яго. Узялі пілу і прыкленчыўшы давай шараваць.

— Татка!

— Чаго?

— Зірнеце—колькі пнёў блішчыць па дарозе!—паказаў Лявон туды рукою.

— Пляжаць іх, хто зарваў. Адзін Гіляры - Лыжачнік колькі з іх лыжак выстругаў! Я-бо дзівіўся, дзе ён дрэва на лыжкі бярэ. А аднаго разу, ловячы каня па загародзьдзі, найшоў на яго, як з сынам дставаў з стогу саломы кляновы кругляк. Тады й дазнаў праўду.

Як шалёная бегала сюды-туды піла ў іх руках, што раз глыбей уяжджала ў мёрзлую абалонь. З боку, у невялічкім ляску, голасна адгукалася эха на яе звон... 'Шчэ разоў колькі завярнулася яна й клянок апошні раз жаласна затрапятаў голымі галінкамі, разьвітаўся з сябрамі—вартаўнікамі дарог, з грукам грымнуў вобземлю.

— Цьвярдое дрэва... Піла аж гаворыць,—дзівіўся Лявон, абглядаючы камель.

— Мёрзлая абалонь,—па старэчаму сур'ёзна адзначыў бацька.

Завінуліся з сякерамі каля гукоў. Жвава абцерабілі і ўвязалі на санях. Самі на іх прымасьціліся.

Ізноў заскрыпеў сьнег пад палазамі, паляцелі наўкола

хоча ісьці працаваць на поле, ляжыць, не ўстае. Бацька ў хаце ляжыць, няхай сабе ляжыць, а мне і пад ігрушай ня кепска, яшчэ і лепей на сьвежым паветры, думаў Міхась.

Зайшоў да іх аднае раніцы сусед Пракоп і пытаецца:

— Гаспадары! Што-ж гэта вы сабе думаеце? Людзі жыта ўжо дажынаюць, а вы цені выціраеце. Як вам ня брыдка.

— Я, Пракопка, захварэў, дальбог захварэў і мусіць памру хутка, а ён лодыр гэты на мяне спадзяецца.

— Міхась! Ты-ж гэта, што сабе думаеш, а? Спадзяешся на хворага бацьку? Не, хлопча, ня быць табе гаспадаром, не, дзяціна. А яшчэ да маёй Ганны прыстае, каб замуж за яго йшла.

Калі ты цяпер прыдзеш да нас, дык так адлупцую цябе і Ганку, што доўга будзеце помніць гэтую лупцоўку. А што адлупцую, дык каб я так да дому дайшоў, вось пабачыш. Жартаваць я ня люблю. Сёньня, каб жыта было пажатае, а не, сьцеражыся, хлопча, дальбог сьцеражыся!

Зараз-жа бяры серп і гайда на поле, а ня пойдзеш, дык ня відаць табе Ганны, як сваіх вушэй. Чуеш?..

Пайшоў Пракоп дамоў, а зараз за ім вышаў і Міхась з сярпом.

Цяжка было працаваць, ай цяжка! Сьпіна баліць, сонца пячэ і пот цурком цячэ. Смажыць, а прагнаць смагу няма чым,, вады ня ўзяў, а каб напіцца ў людзей, дык тыя вельмі далёка, ажно пад, лесам ужо матляюцца.

Сяк так дацягнуў да абеду і пабег да дому. Перакусіў сяго, таго, набраў біклагу вады і зноў ў поле, а бацька ляжыць не ўстае, енчыць дома. Хоча ўстаць і ня можа, бяда дый годзе!

Прайшло тры дні.

Міхась дажаў жыта. Нажаў сем коп і людзі тры капы, а ўсяго дзесяць.

Рад Міхась, што шмат збожжа. Можна і дажынкі справіць, самагону націсынуць, пірагоў купіць і ўсяго, што толькі зажадаецца.

Пачалі людзі вазіць снапы і Міхась не адстае ад людзей. Цэлы дзень вазіў іх у гуменца і звазіў.

На другі дзень да сьняданьне наабіваў жыта, павеяў і павёз у млын, а к вечару быў дома.

— Мука ёсьць, дрожджы таксама ёсьць, можна і брагу рашчыніць. Рашчыніў і паставіў у цёмным вуглу гуменца.

Агледзеўся Міхась—няма дроў ані палена. Лес хоць і блізка, але ўдзень нельга ехаць, вартаўнік зловіць, трэба уночы, так і зрабіў.

Паехаў Міхась у лес, налупіў воз бярэзьніку і прыехаў да дому, прывёз дровы ў гуменца, каб ніхто ня бачыў, выпраг кабылку, пусьціў яе на пералог, а сам стаў ля возу, зрабіў цыгарку з конскую нагу, шарганув аднэй сярнічкай, загарэлася і адляцела кудысьці ў снапы ці торп сена, другую, тое самае : толькі ад трэцяй сярнічкі закурыў, зацягнуўся дымам на ўсе застаўкі, вышаў з гуменца, зачыніў дзьверы і накіраваўся ў хату.

---

ледзякі з пад конскіх капытоў.

Моўчкі думаў стары сваю думу, глядзеў туды, дзе чарта ночы мяшалася з бельлю зямлі.

— Гады за два павінны спляжыць гэтыя прысады,— у голас сказаў.

— Нізаводня, — падцьвердзіў сын.

У зімку—ад мяцеліцы ратунак. Улетку—халадок. Але ні бяруць на гэта ўвагі. Пляжаць прысады... А як гэтак, дык ні разяўляйся. Каці, калі зарваў, — і ўсьміхнуўся стары.

Лявон праз некаторы час, дадаў:

— Плявузгаюць некаторыя, што з лясьніцтва на наш савет дроў сто сажняў далі.

— Дык хай хіба ў аптэку па вагі йдуць, каб іх людзям разважыць,—бяз жартаў запамеціў на гэта Даніла.

— Толькі-ж хіба гэтак!

...Зьбіліся з гаворкі.

А тут, як з печы, вопрамецьцю паляцелі сані ў выбоіну, у другую, трэцюю...

Вёска шапацела голым вішэньнікам, клянамі-волатамі. Дзе-ні-дзе па адным дралі горла раньнія пявуны.

Не шапнулі падарожнікі (у вёсцы асьцярога патрэбна). Борзда прыскочылі на свой двор. Каля „крадзенага“ заварушыліся.

— Стаўляй каня каля завулку,—ціханька камандаваў бацька сыну.

Тады, узяўшы жалязьнякі, раскапалі гурбу сьнегу ў завулку, дзе прычолак току сыходзіцца з страхою хлява. Укінулі туды кляновы пень і сьнегам завярнулі. Чыста й гладка!

— Тутака й сам чорт трыбу ня возьме,—уважна абгледзіўшы свой спрат, парашыў Даніла й накіраваўся ў хату.

Пявуны па ўсёй вёсцы

Толькі што ён ўзяўся за клямку дзьвярэй, як пачуў крык.

— Ратуйце, пажар! Тадорава гуменца гарыць.

Міхась як стаяў ля дзьвярэй, так і сеў ля іх, абмёр са страху. Хоча ўстаць— ня можа, а гуменца было ўжо ахоплена агнём.

Другі час ночы.

Пакуль людзі расшалопалі ў чым справа, ды пакуль павыцягвалі сваю маемасьць з хат, дык паўвёскі згарэла, як вол зьлізаў.

Загінуў Міхасёў і самагон, і Ганна, і ўсё на сьвеце. Бацьку чуць жывога выхапілі з хаты.

Ось і нагаспадарыў! Бадай цябе пярун, бадай! І трэба-ж мне курыць у гуменцы, бадай цябе ды бадай—марматаў Міхась, седзячы пад абгарэтай грушай і праклінаў самога сябе і ўсё на белым сьвеце.



**У чырвонаармейскім клюбе.**

дружна й голасна віталі іх з удачаю.

„Цяпер толькі спаць..спаць... Жонка з меншым сынам адны ўправяцца раніцаю жывёле падаваць“. І стары моцна пазяхаў.

II

Цэлы тыдзень было ціха. А там і пашлі па вёсцы дзейкі. Многа чаго лагоняць людзі. Хто ні пападзе на іх язык?! Але горш за ўсё, калі вынюхаюць, вышпігуюць нешта гэтакае, чаго ўсім у вушы ўносіць нясьледна. І як яны дацікуюць? Дзіва ды й годзе!

— Каб вам языкі выпетралі! Дзе-ж тыя ў мяне кляны? У хаце, як у ваўкаўні, а яны кляны нейкія плятуць. Калі я якога д'ябла сек? Каб вас блохі секлі!—жаліцца Даніла таму, хто пасуседзку людзкую памоўку адкажа.

Дацікаваў нехта. А чым я горшы, скажам, за ГіляравагаЛыжачніка? Яму—можна, а мне—не, злуе ён у думках:— Во напасьць!“

— Убіўся, ты стары, з сваім клёнам у бяду, як сабака ў саладуху,—лае яго жонка, забыўшыся свайго ранейшага слова,—як калі сыйдуцца сам-на-сам, — лепш частаколу пасек колькі спалілі-б, пакуль дроў дадуць.

— Чакай—дадуць, — спыняе яе ўзлаваны мужык:— Дадуць табе ў год палена на затаўку, ды торп дзяры на балоце.

— А дрова паядуць?

— Упатрэбяць.

Як хутка падхапілі гэту дзейку, гэтак хутка й „годзе“ сказалі пра яе. Ужо вёска на розныя лады, паводлуг асабістых густаў, смакавала дзесяткі новых тэм. У волю хвасталі языкі.

Супакоіўся і Даніла, пакінуў клясьці.

Сталася гэта з раніцы.

# На начлезе

З. Бульбянік

На лузе прасторным, дзе гудок сушэйшы
Хуценька міргае сіні аганёк.
У кажухох, у сьвітах, ля яго, адзеўшысь
Не адзін сялянскі прышчыцца сынок.

А навокал чуеш ходзяць коні нашы,
Скачуць цэлу ночку, вяселяць паплавы.
Вараныя коні на шаўковай пашы
Пад'ядаюць смачнае, сочнае травы.

Камары кадрылю круцяцца-гуляюць,
І зьвіняць у ціхі адзін зьліты звон.
Доўгімі хвастамі конікі ганяюць
Камароў кусьлівых, ад сябе іх вон.

Як мядзян чырвоны, месяц пазірае
І з-за бору выплыў і вышэй плыве;
І лугі і поле срэбрам накрывае
А уцячэ за хмару,—згіне яго й сьлед.

З неба ясны зоры падаюць да долу
Золата прыгожасьць зіхаціць на іх.
О! Як многа ў небе, немагу ніколі
Угадаць, падумаць колькі зор такіх.

У канаве жабы справілі ігрышча
Гутаркі разводзяць, крэкчуць між сабой.
А вада стаячая белым люстрам блішча
Кусты, зоры, месяц бачыш так у ёй.

Шуміць бор высокі, радасьцю гамоніць;
У зялёных сукнях яго ўсе дубы.
Ад яго паветра чыстая падходзіць
І мяне частуе ёю ён любы.

Ночка залатая, ты гарыш агнямі,
Граеш ты сьпяваеш, свой прыгожы гімн.
Музыка і сьпевы льлюцца над палямі.
Аб жыцьці каханым радасным тваім.

# РАДАСЬЦЬ ГУЧЫЦЬ

Мікола Званец

Вёска ціхая, мілая ў радасьці.
Вецер звонка пяе у трысьці.
Эх, у шчырай і юнай каханасьці
Па-над стрэхамі радасьць гучыць!..

Вёска ціхая, родная, юная
Перакінула думы ў жыцьцё.
Дзень прыгодны з напорнаю думаю
Над ёй радасьці песьню завёў.

Гэта песьня у душу вясковую
Сонца праменем ціха прашла:
Сваю радасьць магутную, новую
На зямлю для людзей праліла.

Вёска ціхая, мілая ў радасьці,
Вецер звонка пяе у трысьці.
Эх, у шчырай юнацкай каханасьці
Па-над стрэхамі радасьць гучыць!

---

З бадзёрым настроем, падаваўшы каровам трушанкі, абмяшаўшы каню сечкі, увашоў Даніла ў хату. Прыемны пах масла ад мазаных бліноў напаўняў яе і пяшчотна казытаў Данілаў нос. Як пад'еў сын, замясьціў яго месца бацька.

Жвавы Даніла ў гэтай працы, ды перавага заставалася за Даніліхаю. Яна ня толькі спраўна падкідала тонкія, як налісьнікі, аржаныя бліны на спажыву мужыку, але і ў запас напякала. Рос касьцёр.

— Во любата на дварэ!— гаманіў стары, завіхаючыся каля бліноў; пазірае праз вакно на двор, бачыць як з стрэх па доўгіх бурых ледзякох цякуць і капаюць буйныя, па бабоваму каліву, кроплі, як руды мох відаць у прапалінах на страсе хлява. Сьцежкі—чорныя

— Глядзі што перад каладамі сёлета паводка пойдзе, як аднаго году,—дудукае жонка; глядзіць, каб блін ні прыгарэў.

— Трэба сёньня нам той клён на дровы пашастаць,— сказаў бацька Лявону з-за стала.

— Як сабе хочыце.

— Зараз пойдзем.

З гэтым словам апаражніў Даніла лаву. Як-бы хто сказаў яму на той час: „Зірні Даніла ў вакно!“ Зірнуў. Бачыць: стаіць ля Паўлавай хаты міліцыянэр з членам сельсавету іх вёскі, пад іх ідзе з двара Павал.

Данілу цікнула:

— „Што гэта значыць?“

Зацікавіўся. Глядзіць.

У трох ідуць па вуліцы пад яго.. завярнулі на двор.

— Чаго гэта?—спыталася Даніліха нямаведама ў каго, зірнуўшы на двор.

Даніла намерыўся нешта адказаць, але, пачуўшы як

# У ДАРОЗЕ

## Кляшторны

Дзень згараў..
Заціхалі ў палёх паразвоны.
Майскі вецер чаромху нямёў.
Захлынуліся вокны вагону
Сіняватым вячэрнім агнём.
А за вокнамі сьцені скакалі
Табунамі ліхіх рысакоў...
Ціха талі
У звонкія далі
Пераліўныя хвалі палёў.
Бедных ніў залатое прывольле
Задрамала ў тынянай цішы...
Эх ты поле,
Бязьмежнае поле—
Люба мне Беларуская шыр.
Хай сягоньня
Севалкамі вёсен
Сее смуту ў палёх недарод;
Нашы дні—
Ня журботна: восень,
Нашы дні—
Грамавы веснаход.
Хоць палі нашы бедны вясною,
Але час наш сьвятлей і мілей,
Бо пад нізкай сялянскай страхою
Пальнеюць зарніцы надзей.

* * *

—Усё так створана мудра на сьвеце,
Разважаў спадарожнік Тарас.
—Ня прыкмеціш,
Ніяк ня прыкмеціш,
Як мяняюцца людзі і час.
Бачыш там,
Дзе бухмаціцца клён так,
Серабрыцца дзе квецень садоў,
Быў калісьці багаты маёнтак
З незапамятных дзён і часоў.
Жыў там Ян Апанасавіч Сілін;
Ой і пан быў,—
Ня пан—удаў.
Ён сусьвет-бы ў кішэню зажыліў
І за звонкія-б сонца прадаў.
Мужыка раз прыбіў да паўсьмерці,
А за што, братка?..
Крыўдна сказаць...
—Што вы —кажа,—зазналіся чэрці
Нават шапку ня хочаце зьняць.
Што глядзіш так адродак сабачы,
Што?
Цураешся, быдла, паноў...
А старык нават сьцежкі ня бачыў
Дзевятнаццаць мо' нейкіх гадоў.
Час ішоў,—
Не адзін маладзік зьнік
Шмат сплыло ў нябыцьцё вечароў...
Раз на вёску прыехаўураднік
І да пана зазваў мужыкоў.
Унетрах душ невядомасьць гарэла...
Што пан хоча,—
Што хоча сказаць,
А пан выкаціў бочку гарэлкі
І давай мужыкоў частаваць.
Разьміналіся,
Бомкалі чаркі,
Залівалі надломы душы,
Покуль зор залатыя агаркі
Ня зблудзілі ўсьвятальнай цішы.
А як высахлі раньнія росы
Вышаў пан...
Пад шалеючы гам
Задуменна дастаў папяросу
І прамову сказаў мужыкам:
Мы, браткі,—хрысьціянскія душы
Хілім голаў ніжэй ад вады,
А нас нехрысьць праклятая
душыць,
Нас асецілі сёньня жыды.
На [illegible]
Шмэркі ды Беркі..
Дай [illegible]
Дарагога віна,
Гэй, выкачвай бочку гарэлкі,
Выпіваема куфлі да дна.



ляснулі клямкаю ў сенцах, замаўчаў.

— Дзень добры!—прывіталіся з парога член з Паўлам.

— Здаровы—спазьніўшыся дадаў міліцыянэр.

— Дзень добры! Здаровы!

— Сядайце ў нас.

— Чаго гэта ён,—ні ўцерпіў гаспадар папытацца ў Паўлы? і кіўнуў галавою ў бок міліцыянэра.

— Дрэва шукае. Нас за панятых узяў,—шапянуў Павал.

..Гаварылі й дагаварыліся. Нехта навёў,—троха Даніла палохаўся, але на спрат ні кідаў надзеі:—Павінен выручыць з бяды".

— Дык вось, дзядзька!—прысеўшы каля стала, капаючы паперы ў партфэлі, адразу ўзяўся міліцыянэр за справу:—Як вядома нашаму вучастку міліцыі з паданай на вас заявы, мы запамячаем вас у пакражы сырарастушчага дрэва з прысад. Значыцца ў вас нам трэба пашукаць сьлядоў злачынства. Дык будзьце ласкавы паказаць нам вашы будынкі... Гэта панятыя.

Паказаў пальцам на мужчын і прабег вачыма па паперы з аднаго, другога боку; відаць, нашоў у ёй нешта патрэбнае; прачытаў сабе пад нос і палажыў на сваё месца.

— Пойдзем!—злажыўшы ў дзьве пагібелі й падаткнуўшы пад паху партфэль, на хаду загадаў ён.

Нехаця, дзеля прыкляпу, пасунуліся за ім панятыя. Ні то спалохам, ні то з цікавасьцю праводзілі іх Даніла, Даніліха, Лявон. Гоман у хаце пабудзіў дзяцей і яны босыя кінуліся бегчы за старэйшымі. Але пачуўшы голаснае бацькава: „Куды гэта?!"—супынілі сваю цікавасьць.

Разьміналіся звонка бакалы,
Залівалі надломы душы,
Покуль золак сівыя туманы
Не разьмёў па вазёрнай цішы.
А як толькі на раньнія росы
Зараніца цякла з-за гаёў
У мястэчку заляскалі косы,
У мястэчку крывавы пагром.
Забраджджэлі жалезныя брамы,
Зазванілі засовы дзьвярэй...
Бачу Моўша ляжыць
Каля крамы,
А ля Моўшы пяцёра дзяцей.
Эх вы любыя,
Як не заплакаць,
Дарагія,
Ну як-жа, ну як?!.
Мае скарбы: аборы ды лапці,
Скарбы Моўшы:
Стары лапсардак.
Разам долі па. сьвеце шукалі
Разам мерылі жорсткі сусьвет...
... Надламілася сэрца ад жалю
Увaччу затуманіўся сьвет...
. . . . . . . . .
Усё праходзіць. Як дым у даліне,
Толькі ў сэрцы такая пустош?..
Я ледзь, ледзь не павіс на асіне,
А на Сіліна вытачыў нож.
І вось там,
Дзе бухмаціцца клён так,
Дзе пярэсьціцца зелень бяроз—
Быў калісьці багаты маёнтак,
А цяпер багацейшы саўхоз.
Дагарэлі там п'яныя ночы
І ніколі ня вернуцца зноў
Толькі ветры за брамаю точаць
Дурнап'яны мінулых гадоў...
Хоць палі нашы бедны вясною,
Але час наш сьвятлей і мілей,
Бо пад нізкай сялянскай страхою
Палынеюць зарніцы надзей.
Хай сягоньня
Севалкамі вёсен
Сее смуту ў палёх недарод...
Нашы дні—
Не журботная восень,
Нашы дні—
Грамавы веснаход...
... Ша!..
Прыпынак.
Вячэрнія бомы.
І сьвятло залатых ліхтароў...
Захлынуліся вокны вагону
Сіняватым вакзальным агнём.

Парэчча—Менск 1927 г.

## ЦЬВІТУЦЬ ВАСІЛЬКІ

### Я. Водгук

Цьвітуць васількі, адцьвітуць васількі
І вецер пялёсткі расьсее.
Праімчацца і зьнікнуць юнацтва гады,
Праімчацца і зьнікнуць у завеях.

Праімчыцца юнацтва, пяройдзе. як сон
І толькі ўспаміны пакіне.
А ў сэрцы юнацкім гарачая кроў
Ніколі ня зробіцца сіняй.
Ня зьнікнуць жаданьні ў юнацкай душы,
Ня зьнікнуць ніколі, ніколі!
Хіба ў нашы дні, у вялікія дні
Могуць грудзі ўздымацца паволі?

Хіба ў нашы дні, у вялікія дні
Жыць можна бяз сьветлых надзеяў?!
Цьвітуць і цьвітуць, усё цьвітуць васількі
І вецер пялёсткі расьсее.

— Нейкаму-ж гаду ня было чаго рабіць—удаў чалавека бяз дай прычыны,—паціскаў плячыма Павал.

— Дарма стараўся. Нічога я ня маю і ня вінават ні ў чым,—голасна (каб пачуў міліцыянэр) адказаў яму Даніла.

Ува ўсе заканоркі, завулкі глядзела міліцыянэрава вока, пэратрэсьлі ток, хлеў, падпаветку, сьвіначнікі—нідзе няма.

Рад Даніла. Яму хочацца пакпіваць, сьмяяцца. Ого! каб ён ведаў, хто падаў на яго! Бэсьціў-бы, лаяў, нідзе праходу ня даў і нарэсьце, прыкладку прылажыў-бы. Толькі ня ведаць яму гэтага, бо ў казьне з гэтаю справаю —сакрэт.

— Выбачайце за турбацыю!—сказаў міліцыянэр, зачыняючы за сабою вароты ад вуліцы.

Панятыя засталіся ў Данілы. Яны разам з гаспадаром усьміхаліся ўсьлед міліцыянэру, узапёршыся на вароты ад вуліцы. Усе тут былі задаволены.

„Добра што ня выпараў пры нас. Тады-б гатоў чалавек падумаць, што мы навялі на яго; закалец меў-бы на нас"—было ў думках панятых

Пасяброўску гаманілі мужчыны пра сягоняшняе здарэньне, сьмяяліся, жартавалі, а таго й ня бачылі, як заўняўся міліцыянэр проці Паўлавай хаты, паглядзеў нечага на яго гумно й зьвярнуўся назад.

— Кепска дзядзька схаваў: відаць камель з таго боку,—жартаваў міліцыянэр, вярнуўшыся к мужчынам і паказаў дубчыкам пад Паўлу.

— Добра што панятыя тут. Пойдзем паглядзім!

Проста ў завулак паміж хлявом і токам вёў міліцыянэр панятых. Палез на гур



Забараноўваецца жыта.

# Злодзей

А. Строкат

Міколку Кліна ведалі ў вёсцы, як ня добрага чалавека. Яго неяк усе старaніліся, ды і сам Міколка мала з кім сябраваў.

Звалі яго ўсе Міколкай, ня гледзячы на тое, што ён быў ужо ня Міколка, не малы хлапчук, а дзядзька гадоў пад пяцьдзесят.

Маленькі, вяртлявы, з нейкім вострым поглядам шэрых маленькіх вочак, ён пакідаў аб сабе ня зусім добрае ўражаньне.

Пасівелыя валасы яго захоўваліся пад валенаю шапкай, якую Міколка ня скідаў ні зімою, ні летам.

Хадзіў ён хуценька, часта падазронна агледваўся і неяк нялоўка размахваў рукамі.

---

бу, разоў колькі ўяжджаў па пояс у сьнег.

— Якога тут д'ябла найдзеш у гэтым сьнезе? Гэта-ж мяцеліца на тым тыдні гэтакі канец вымуравала,—казаў Даніла.

Праўду кажаш,--зморшчыўся, як-бы што кіслае глынуўшы, падцьвердзіў Павал.

— А гэта што?—і па нейным цьвярдым стукаў міліцыянэр.

— Хадзеце сюды!

Падышлі, глядзяць—праўда, тырчыць камель з гуры і капае з яго вада, сьнег ё больш утае і агаляе яго.

— А кадук яго ведае! Можа хто прывалок наrачня сюды. Бяры сабе, калі патрэбен. Я ўходзіць ня буду—не маё.

Стуліў Даніла плечы, шырокімі вачыма на камель глядзіць—першы раз бачыць.

— Можа якая халера па злосьці перш укінула, а тады й падаткнула, каб чалавека ўкусіць,—апраўдавалася Даніліха, у адным каптане й пантоплях на басанож, выскачыўшы з хаты.

— Усяго людзі могуць нарабіць,—казаў Павал.

— А сьціхні, дзядзька! Хто гэта гэтакі тавар каму аддасьць?

— Абы ўкусіць чалавека.

„... Падцкавалі... Укусілі... А я вас не падрэжу? Колькі ў вас хвастоў у хляве стаіць, а колькі ў падатак запісана—а ня ведаю!?—на ўсю вёску абурыўся Даніла:—Калі я адну здыхлу-сьвіньню ня ўпісаў, дык у другіх-жа па пяцёра, шэсьцера ў сьпісы, ня ўведзена. І яны (панятыя) прыяцелі знашліся.

І тады ўспомніў пра торп:

— Чэрці яго ведаюць, можа й праўду казаў той!..

Лічылі ўсе Міколку злодзеем. На гэта былі прычыны.

Калі ў суседа прападала далато, ці гнаявыя вілы, адразу падазрэньне было на Міколку.

— Каму-ж як ня Міколку ўзяць—казалі суседзі. Плуга на полі не пакідай, з жалезнай бараны ўсе кляцы павымае.

— Нават граблі і тыя падбярэ, калі каля капы пакінеш.

— Колькі разоў яго ўжо дубасілі за гэта,—казаў стары Пархвен,—але не адвучаецца.

Такія думкі былі ў суседзяў аб Міколцы. Ды і ня толькі ў суседзяў. Усе сяляне нашай вёскі казалі, што ён злодзей.

Вось чаму і зразумела ўсе адразу падумалі на Міколку, калі ў Рыгора Стахваненка, з поля прапаў плуг.

— Няйначай як ён, болей няма каму гукаў Пархвен.

— Зьбірай Рыгор людзей, ды ідзі з вобыскам да Міколкі, ды дручок з сабою захапі. Усыпаць трэба яму, хаць-леры гэтай.

— Шкадаваць такіх няма чаго—падтрымалі дзядзькі.

Валі...

Гурт сялян чалавек дзесяць рушылі да Міколкі з вобыскамі а рэшта засталася чакаць. От і дам-жа я яму, зладзюгу, калі плуг знойдуць—казаў Мікіта Рыжы—успамяну я яму і далатцо, і скоблю і стругач. Трасца яму.—Век красьці зарачэцца.

Раптам з канца вуліцы пачуўся крык і з-за вугла Сідаравай хаты паказаўся натоўп.

Паперадзе ішоў Міколка і на плячох нёс украдзены Рыгораў плуг.

За ім ішоў з дручком Рыгор і праз дзесяць Міколкіных крокаў з усяго маху біў яго дручком па плячох.

— А-а-а-й! А-я-я-й! крычаў Міколка.

— А, крычыш, а красьці будзеш?!—спытаў Мікіта Рыжы,—трымай, брат, ад мяне—сьвіснуў у паветры друк і рэзнуў Міколкаву сьпіну.

Міколка ўпаў на зямлю.

— Стой, цяпер біць ня трэба—затрымаў Рыгора Тодар—хай ачухаецца.

Прынясі вады вядро.

Амаль жывога Міколку зноў паставілі на ногі, узвалілі на плечы плуг і падштурхваючы павялі па вёсцы.

— Бачыў ты, у млосьці кінуўся, дурняў знайшоў ліха яму, гад. Лупяні ты яго яшчэ, няхай весялей ідзе, можа красьці пакіне.

Так Міколку з плугам правялі з канца ў канец вёскі. Разоў пяць аблівалі сьцюдзёнай вадою, білі да бяспрытомнасьці.

— Цяпер няхай ачухаецца, назаўтра паразумнее—злосна сказаў Сьцяпан—хадзем, браткі.

Ачухаўся назаўтра Міколка. Цела пасінела ад пабояў рукі, ня гнуліся, на адно вуха чуць перастаў.

І ня вытрываў... Нешта раз згінуў Міколка, а праз дзень яго знайшлі ў сваім-жа гумне на бальцы...

---

## МАК

З. Шнэур *)

Закрасавалі нівы... Я вышаў сьветлым раньнем
На росныя палеткі—усюды мак расьцьвіў:
Нібы прарваўся ў красках крык палкага жаданьня,
Нібы паходні шчасьця—у шоўку пышных ніў.

* * *

Абняў агонь сьцябліны, а не згараюць траўкі;
Праплыў ціхуткі ветрык... Ускалыхнуўся цьвет,—
І задрыжэлі квола агні жывыя маку:
Вось-вось заскачуць іскры, і дым пачне сівець.

* * *

Я стаў у захапленьні сярод палёў пажару,
У пурпуровым моры дрыжачага агню...
І сонца і палеткі дарылі сэрцу чары
І зазьвінелі гімны: праменьням, краскам дню...

З гэбрайскай мовы, пераклаў

І. ПЛАЎНІК.

1911 г.

*) З. Шнэур вядомы гэбрайскі пісьменьнік. Пісаў вершы і апавяданьні на старагэбрайскай мове, а таксама і на сучаснай гэбрайскай мове. У сваіх творах паказваў прыгожасьць прыроды. Прыкладам гэтага зьяўляецца гэты верш.

# Упартая жанчына[1]).

## Народная казка.

Былі ў бацькі ды ў маткі тры дачкі: дзьве ўдалыя да старанныя, а трэцяя хоць гожая, як макаў цьвет, але такая гультаяватая ды сварлівая, што мо' такое і сьвет ня бачыў. Набраліся з ёю бацькі клопату: ні ў людзі ні адаць, ні пры сабе трымаць. Вядома, які гэта тавар, што як сьвежага не прадаў, дык лепш-бы і ня меў. Падрасьлі ўдалыя дзяўчаты, дык іх наперабой пачалі сватаць ды й пабралі замуж. А тая ўпартая дачка засталася сядзець у бацькоў на карку. Але яшчэ горш за ўсё тое, што з ёю няма ніякага зладу, што захоча, тое зробіць, а не захоча, дык, як та наравістая кабыла, што ні ў зад, ні ў перад.

Нагараваліся з ёю бацька з маткаю, але нічога не парадзіш, бо, вядома, сваё дзіця не кацянё, — за плот ня выкінеш. Сядзіць яна ў дзеўках, а ніхто і ня думае пасылаць да яе сватоў, бо ўсе даведаліся, якая гэта цаца. Толькі вось быў там адзін багаты ды вельмі харошы чалавек. Ён рана аўдавеў, але не жаніўся другі раз, бо вельмі кахаў сваю жонку.

Быў у яго адзін-адзінюшанькі сын, гэтак дзяцюк гадоў пятнаццаці, ці мо' і больш. Вось і думае бацька,—няхай ужо падрасьце сын ды ажэніцца, тады і будзе ў нас гаспадыня, а я і так дажыву свой век. Вырас сын, пара ўжо і яго жаніць. Гожы хлапец: паслушны, старанны, да ня хоча маладым жаніцца. Яго равесьнікі толькі тое і робяць, што дражняцца з дзяўчатамі, а ён туды і не пазірае. Пачалі бабы сакатаць, што за гэтага хлопца пойдзе самая лепшая дзеўка, абы толькі ён яе браў. Кепска жыць без гаспадыні, бо праўду-ж кажуць людзі, што гумно п.лача без гаспадара, а хата без гаспадыні. І пачаў той чалавек гаварыць сыну, каб ён наглядаў сабе дзеўку.

— Я ўжо даўно наглядзеў,—адказвае сын, толькі баюся, што ты бацька не захочаш.

— А той думаў, што сын выбраў сабе добрую дзеўку і ды і кажа:

— Чаму я не захачу? Табе, сынок, з жонкаю век векаваць, а ня мне. Выбірай, якая люба, а я цябе змушаць ня буду.

— Ну, дык, вось, бацька, пасылай сватоў да гэтай дзеўкі, якой усе людзі цураюцца.

— Зьдзівіўся чалавек, але няма чаго рабіць—згадзіўся на выбар сына, але ўсё-ж думае адгаварыць сына, каб ён глупства не рабіў.

— А ты ведаеш, якая яна наравістая?

— Ведаю, затым хачу яе ўзяць, бо наравістыя сьветам уладаюць, а ціхія ды пакорныя шчасьця ня маюць.

— А ці-ж ты з ёю саўладаеш?

— Людзі і мядзьведзя вучаць.

— Мядзьведзя вучаць, але-ж вельмі мучаць.

Няма чаго больш казаць, пашоў той чалавек у провяды. Прыходзіць ён да бацькі тае ўпартае дзеўкі і кажа: так і так, мой сын хоча з ёй пабрацца.

— Што ты гаворыш, добры чалавеча? За твайго дзяцюка пойдзе самая лепшая дзяўчына, а мая гультайка толькі такая ўпартая, да наравістая, што з ёю нічога не парадзіць, ён малады хлопец, ня можна яму сьвет завязваць.

— Калі-ж ён сам гэтага хоча.

— Мала, што блазны хочуць, а нам імі трэба кіраваць.

— Пачула з-за печкі тая дзеўка ды і кажа:

— Я пайду за яго, бо ён гожы хлопец.

— Маўчы, дурная!—крыкнуў на дачку бацька, ды кажа таму чалавеку:

— Скажы свайму сыну, што калі ён саўладае з маёю наравістаю жарабіцаю, тады мо' саўладае і з гэтаю ўпартаю дзеўкаю, тады няхай бярэ.

Пашоў той чалавек і ўсё расказаў сыну.

— Добра,—кажа сын,—я спраўлюся з гэтай жарабіцай.

Вось пашоў ён да таго чалавека, зірнуў на тую жарабіцу, аж яна стаіць у зрубе бяз варты да толькі храпе ды капытамі грабе зямлю. Ніхто да яе падступіцца ня можа, а корм і ваду пускаюць цераз верх. Вось той хлопец закінуў жарабіцы на шыю пятлю, зацягнуў вяроўку ды і запрог жарабіцу ў сані. Прывязаў ён на сані млынавы камень, сеў сам ды і папёр жарабіцу па ральлі. Дзела было

[1]) Казка гэта ўзята з кнігі вядомага зьбіральніка беларускай народнай творчасьці Аляксандра Сяржпутоўскага—„Казкі і апавяданьні беларусаў з Слуцкага павету". Выданьне Інстытуту Беларускае Культуры. Менск, 1926 г. Запісана казка А. Сяржпутоўскім у Чудзіне.

па леце. Рэжуць палазы зямлю бы пароўшу, жарабіца нясе, ляціць як маланка, а хлапец яшчэ пугаю паддае ёй ахвоты. Насіла яна, насіла па ральлі, спацела, аж шум з яе кускамі падае, нарэшце стала такая мякенькая, што хоць давай дзіцяці, дык і тое паедзе.

— Ну, здольны ты хлапец,—кажа той чалавек, дык пэўна справішся з маёю дачкою.

Пабраліся яны, справілі вясельле, але вось захварэў бацька маладога ды праз тыдзень памёр. Пагараваў сын, патужыў. Пахаваў ён бацьку ды давай правіць гаспадаркаю адзін з маладою жонкаю. Клапоціцца ён цэлы дзень, робіць за двох, а прыдзе да хаты, дык там няма ні абеду, ні куска хлеба, сьмяцьцё ня вымецена, у печы не палена, каровы равуць, сьвіні скрыгочуць, хоць бяры ды ўцякай. А жонка сядзіць сабе ды глядзіць у люстэрка, ці гожая. Маўчыць ён ды сам усё робіць. А ёй толькі тое і трэба, наесца гатовага, ды й качаецца па палу, ці балакае з языкатымі жанкамі.

— Кепска, думае гаспадар, гэтак ня будзе ніякага зладу, бо вядома, гаспадар, без гаспадыні не чалавек, а паўчалавека. І давай ён прывучаць ды заахвочваць да работы гультаяватую жонку. Але чаго ён не рабіў, нішто не памагае, бо жонка ня цікавіцца гаспадаркаю, а ўсё наровіць, як бы ёй наесьціся ды паляжаць. Прышла нядзелька, вось і кажа гаспадар:

— Хадзем к сябру ў госьці.

— Хадзем—адмаўляе жонка, ды й пачынае апранаць на сябе лепшае адзеньне. Сабраліся яны ды пашлі. Сябра жыў у суседняй вёсцы, мо' за вёрсты дзьве або тры. Трэба было ім ісьці праз лес. Убачыла жонка ў лесе ягадкі ды й пачала іх рваць. Рве ды сыпле сабе ў рот. Адышліся яны ад дарогі ў гушчу, жонка закружылася ды ня ведае куды ёй ісьці. Вось гаспадар пасадзіў яе на муравейнік і кажа:

— Пасядзі тут, а я пашукаю дарогі.

Толькі маладзіца села на муравейнік, як мурашкі налезьлі к ёй пад андарак ды давай рэзаць за што папала. Яшчэ мо' гаспадар адышоўся на паўгоні, як яна падняла крык, што блохі кусаюць. Вярнуўся ён, залупіў жонцы андарак на галаву ды і зьвязаў яго вяроўкаю, а канцы вяроўкі прывязаў да хвоі. Тупае жанчына па муравейніку ды яшчэ горай дражніць мурашак, а тыя сякуць упартую бабу ды паліваюць сваім сьпіртусам. Раве яна немым голасам.

— Такі і сякі, адвяжы мяне ды ратуй, а то я жыва ня булу!

— А ці будзеш мяне слухаць ды гаспадарку даглядаць?

— Хачу—буду, хачу,—не,—адказвае яна ды круціць задам. Ну, дык няхай цябе тут мурашкі вучаць, як трэба дзела рабіць, каб на сьвеце жыць. А сам адышоўся ды зьбірае ягадкі. Круцілася яна, круцілася, але нарэшце не магла вытрымаць ды і кажа, што будзе і варыць, і пячы, прасьці і ткаць, шыць і мыць ды і гаспадарку даглядаць, і яго слухаць і шанаваць. Вось заклялася яна ды забажылася, што пакіне сваё гультайства ды нораў. Толькі тады адвязаў ён яе ад дзерава ды аслабаніў галаву. Падвёў ён яе да выжару, і вялеў улезьці ў ваду. Стала жонка мяккая, хоць ты яе ў вуха ўлажы. Вось адмыла яна мурашак і яны пашлі да гаспод.

З тае пары людзі не надзівяцца, што гэта стала з маладзіцаю, што яна і гной возіць і разьбівае, ні то, што жне, але і косіць. Гаспадар яшчэ сьпіць, а яна ўжо каровы падоіць, у печы выпаліць, стравы наварыць ды будзіць яго сьнедаць. Дачуўся-ж аб гэтым яе бацька, прышоў да дачкі ў госьці і дзякуе зяцю, што навучыў яе дачку, як на сьвеце жыць.

---

# БІБЛІОГРАФІЯ

**ВАСІЛЬ КАВАЛЬ. ЯК ВЯСНУ ГУКАЛІ. АПАВЯДАНЬНІ.** **Выданьне ЦБ Маладняка. Менск, 1927 г. 76 стр. Цана 35 кап.**

На ніву беларускае літаратуры выйшаў яшчэ адзін малады пісьменьнік, яшчэ адзін таленавіты сын саламянае вёскі прыйшоў у горад і ў сваёй першай кніжцы расказаў проста і шчыра аб вясковым жыцьці.

Кніжка пачынаецца маленькім абразком лірычнага характару „Як вясну гукалі“. У ім гучаць ціхія яшчэ акорды веснавых сонечных мэлёдый, якія зьліваюцца з дзявочымі вясьнянкамі. Далей ідзе галоўнае апавяданьне „Сяльчане“ якое займае большую частку зборніку (12—64 ст.) У ім аўтар удала скампанаваў шэраг малюнкаў вясковага жыцьця, якія даюць даволі поўнае уяўленьне аб сучаснай вёсцы. Аўтар у захапленьні ад „жыват-

ворчага росквіту маладых сіл, які ён бачыць у прыродзе, але галоўная прычына гэтага захапленьня крыецца ў тым, што падобны росквіт маладых вытворчых сіл зацьвітае і ў жыцьці і за гэтым, калі „прыходзіць вясна з сонечна-залатымі днямі, тады мне хочацца думаць ды разважаць“ (стар. 15), кажа Каваль і далей кажа:

„Мне-б хацелася тады сабе і другім расказаць нешта вельмі шырокае ды нязвычайна простае—з глыбіні таго, што ёсьць, ну хоць-бы так проста, як гэты сонечны вясновы дзень“! і памясьціўшы сябе ў асяродку свайго далягляду Каваль апавядае пра жыцьцё сялян, пры чым цікава адзначыць, што ў ціхім вясковым жыцьці ён бачыць ня ідылію стаячага балота. а бачыць нешта іншае:

...„ ці на пакосе, ці на вуліцы, ці ў шырокім сьвеце,—у людзей ёсьць свае драмы—вялікія і маленькія“ (ст. 41) бо мала таго, што вакол

„Радасьць і вясна“, (ст. 24), а яшчэ стаіць пытальнік:

„А ці ўва ўсіх яна ёсьць? (ст. 24).

Гэты маленькі факт яскрава кажа аб глыбіні думак аўтара і дае нам мажлівасьць ускладаць на яго надзеі. Аўтар даў шэраг малюнкаў хатняга і вулічнага быту, цікава і праўдзіва абмаляваў элемэнты новага быту, не абмінуўшы таксама сямейных і рэлігійных адносін на вёсцы.

Канчаецца кніжка трыма невялічкімі, але нязвычайна прыгожымі народнымі легендамі стылізаванымі аўтарам: „Буй-Вецер“, Пра кветку „Брат-сястра“ і „Легенда пра песьню“, якія ўспрымаюцца як заключныя акорды гэтага веснавога гімну новай вёскі. які прасьпяваў ёй яе здольны і шчыры сын Васіль Каваль у сваім першым зборніку. Хай такія мэлёдычныя моцныя сьпевы званчэй і званчэй гучаць на вясковых загонах!

А. М—ка.

## АРШАНСКІ МАЛАДНЯК № 6.

**Орган Аршанскае філіі Ўсебеларускага Аб'яднаньня Поэтаў і Пісьменьнікаў Маладняк. Горкі 1927. Тыраж 1000 экз. 64 стр. Ц. 35 кап.**

„Аршанскі Маладняк“ зьяўляецца адзіным акруговым літаратурным выданьнем на Беларусі, які ўваходзіць ужо ў трэці год свайго існаваньня. Пераважнае ў зборніку поэзія і крытыка, прозы мала. гэта паказвае на тое, што аўтары яшчэ ня выйшлі з пэрыяду вучобы і выкрысталізаваньня сваіх здольнасьцяй. У гэтым нумары выступаюць новыя поэты, якія толькі што пачалі выяўляць свае здольнасьці: Зося Палын, А. Аляксеяў, А. Сяргейчык і К. Назарук. Іхнія вершы, таксама як і чатыры маленькія творыкі. Яз. Віра носяць характар спробы. Матывы, што закрануты ў гэтых вершах—праявы прыроды і вясковага быту—нагадваюць сваім статычна-апісальным выяўленьнем адраджанізм. Выключэньне толькі адзін з вершаў Зосі Палын („Ня прыдзем)“, у якім аўтарка паказала досыць шырокі для пачынальніка дыапазон. вібруючы ад прымітыву (верш „Ой да ты, каліна“) да футурыстычнага рытму ў наступным вершы. У А. Аляксеява адчуваецца ўплыў Есеніна, які выражаецца апрача агульнага настрою вершу і ў такіх русіцызмах, як характэрныя для Есеніна словы „Зьвень“ і „стынь“. У К. Назарука адчуваецца мігаценьне поэтычнага агню, напр.

Хай б'ецца крыніцай надзея,
Агнём хай гараць лятуценьні! (А. М. ст. 26).

Больш сказаць аб Маладых паэтах што-небудзь пэўнае на падставе аднаго ці двух вершаў, ды і можа яшчэ і першых бадай што немагчыма. Далей аб старэйшых аўтарах. Юрка Гаўрук які выступіў раней як перакладчык з іншакраёвай паэзіі з напоў-этнографічнымі „Вясковымі рыскамі“ даў у гэтым нумары верш „Максім Багдановіч“—крымскі мотыў злучаны з успамінамі аб трагічна загінуўшым паэце—напісаны пяцістопным ямбам і крытычны артыкул—„праблемы таленту“ Значны рост паказвае і А. Вегар, які даў цэлы шэраг вершаў з здаровымі маладымі настроямі. У яго поэзіі ёсьць адна надта каштоўная рыска, якою ня ўсе нашы поэты могуць пахваліцца; палаючы імкненьнем будаваць новае жыцьцё. Вечар займаецца і вырашэньнем пытаньня, як яго будаваць і прыходзіць да сьвядомасьці, што аднэй з галоўных задач новага будаўніцтва павінна быць культурная арганізацыя гаспадаркі

„На сталёвым кані
Я й хачу ускапыціць поле“.
. . . . . . . .
„Я жадаю усюды чуць
Трапятаньне электростанцый“

Ня журбой блакітнай я па струнах бразну,
А рассыплю у песьнях канюшыны медзь.
(А. М. стар. 14.)

і гэтыя мотывы наглядаюцца ў поэты не як выпадковыя, а як зусім сьвядомыя:

Не кажэце мне вы што машынны імпэт
Зьнішчыць паэтычнасьць, колернасьць лісьця.
Ён поэту толькі з вышыні Олімпа
Зьнізіцца прымусіць да крыніц жыцьця“.

---

# Тэатральнае жыцьцё

Першы Беларускі Дзяржаўны тэатр з 1-га верасьня ад'яжджае на гастролі ўсяго бягучага зімовага сэзону 27-28 года. За ўвесь год тэатр пабудзе ў некалькіх гарадох.

Першы пункт—Віцебск. У Віцебску пачнецца падрыхтоўка да адчыненьня зімовага сэзону і прабудзе тэатр да канца лютага 1928 г., пасьля чаго пераяжджае ў Магілеў. У Магілеве тэатр будзе да канца красавіка і пераяжджае ў Воршу.

Рэжысэр 1-га тэатру Міровіч зараз перапрацоўвае сваю п'есу „Машэка“.

Композытар Тэраўскі піша да п'есы музыку. Над зусім новым дэкарацыйным афармленьням працуе мастак Марыкс.

# ДАЎНО ПАТРЭБНЫЯ КНІГІ

1. **М. БАРАВЫ. „Па крывавых сьлядох“. Зборнік дакумантаў аб расстрэлах, катаваньнях і гвалтах над беларускім насельніцтвам у часы белапольскай акупацыі 1919-1920 г. г. Белдзяржвыдавецтва. Менск, 1927. Стар. 66.**

2. **ІНТЭРПЭЛЯЦЫІ беларускіх паслоў у польскі сойм 1922-1926 г. Белдзяржвыдавецтва. Менск, 1927. Стар. 496.—XXXII.**

Польская буржуазія пасьля лютаўскае рэвалюцыі, зьявілася для працоўных Беларусі, тэй рэальнай контр-рэволюцыйнай сілай, якая значна (да жніўня 1920 г.) адцягнула Кастрычнікавую перамогу ў Беларусі. Хоць Кастрычнік і перамог, але ў выніку працоўныя Беларусі маюць да гэтай пары многа падстаў для таго, каб даць да аплаты польскай буржуазіі рана альбо позна „нявыплачаныя рахункі“. Гэтыя „нявыплачаныя рахункі“ ідуць па трох галоўных напрамках:

а) адцягненьне перамогі Кастрычніка на Беларусі і вялізныя разбурэньні ў экономіцы краіны, што затрымала, на значны час, гаспадарчае разьвіцьцё БССР;

б) нязьлічоныя чалавечыя ахвяры, якія мелі працоўныя Беларусі на працягу 2-х польскіх акупацый (1918, 19, 20 г.);

в) захоп белапалякамі Заходняй Беларусі і фізычнае зьніштожаньне яе працоўных мас, якое робіцца, там польскай буржуазіяй з 1919 году да гэтага часу.

Даўно ўжо стала на парадку дню пытаньне аб літаратуры, як па пытаньню аб акупацыях у Сав. Беларусі, так і па пытаньню аб белапольскім гаспадарнічаньні ў Зах. Беларусі.

Да гэтай пары гэты прабел папаўнялі некалькі кніжак, выдадзеных у Менску, а таксама і ў Вільні. Але, як тыя, так і другія будучы па смыслу вельмі добрымі, на справе зьяўляюцца малацэнным матар'ялам, яны бедныя фактамі, вельмі ня поўныя, часта без патрэбнага асьвятленьня.

Тым з вялікай радасьцю даводзіцца застанавіць увагу чытача на 2-х нядаўна вышаўшых у выдавецтве Белдзяржвыдавецтва кнігах, цэнных для вывучэньня пытаньня аб белапольскіх акупацыях. Першая з іх кніга М. С. Баравога „Па крывавых сьлядох“—зьяўляецца спробаю сабраць матар'ялы аб белапольскіх зьверствах, пачынаючы з акупацыі Доўбар-Мусьніцкага у 1918 г. і канчаючы беластоцкім працэсам, і становішчам у польскіх турмах у Зах. Беларусі.

Акупацыя Доўбар-Мусьніцкага ставіцца ў кнізе, як першы па часу націск узброенай польскай буржуазіі на працоўных Беларусі. Трэба заўважыць, што вельмі цэнны матар'ял па гэтаму пытаньню („Доклад Бобр. Зем. Управы“) ня быў надрукаваны і да гэтай пары ня знойдзены.

Грабежніцтва і масавыя збойствы грамадзян в. Паўловічы, забойствы мірных грамадзян у в. Жылігах, экзэкуцыя ў в. Хомічах, загад афіцэра Гольца танцаваць вакол шыбеніцы напярэдадні павешаньня арыштаваных у м. Парычы, спаленьне вёсак Вялікія і Малыя Бортнікі і забойствы ўсіх злоўленых пры гэтым, ня выключаючы і дзяцей, гэта ўжо даволі для таго каб ведаць, што давялося перажыць Беларусі ад войск Доўбар-Мусьніцкага.

Другі разьдзел кніжкі тав. Баравога—„1919-1920 г. у Заходняй Беларусі“.

Другая рэцэнзуемая кніга „Інтэрпэляцыі“ зьяўляецца „Зборнікам дакумантаў аб панскіх гвалтах, катаваньнях і зьдзеках над сялянамі і рабочымі ў Заходняй Беларусі“.

Вялікі том, звыш 500 стар. вялікага фармату запоўнены выключна апісаньнем канкрэтных фактаў белапольскага гаспадарнічаньня ў Зах. Беларусі. Дакуманты гэтыя зьяўляюцца дакумантамі польскага сойму, запытаньнямі беларускіх дэпутатаў сойму, пачынаючы з 1922 па 1926 г. уключна.

У паказьніку характару інтэрпэляцыей ёсьць 18 разьдзелаў:

1. Прасьледваньні ў галіне народнай асьветы і школы.
2. Прасьледваньні беларускае прэсы.
3. Гвалтоўная аграрная палітыка.
4. Асадніцтва.
5. Адміністрацыйныя няпраўнасьці і прасьледваньні.
6. Індывідуальныя гвалты, арышты, зьдзекі і катаваньні.
7. Масавыя бяспраўныя арышты, катаваньні і зьдзекі.
8. Катаваньні і гвалты ў турмах.
9. Паліцэйскія забойствы, бандытызм і тэрор.
10. Прасьледваньні грамадзкіх організацый.
11. Рэлігійныя прасьледваньні.
12. Няпраўнае абкладаньне падаткамі і ўсялякімі паборамі.
13. Экономічны ўціск і эксплёатацыя.
14. Забарона і прасьледваньні беларускае мовы.
15. Пагвалчаньні конституцыйных гарантый.
16. Палітычная провокацыя.
17. Зьдзекі жаўнераў над насельніцтвам.
18. Зьдзекі і біцьцё дзяцей-вучняў.

Гэтакім чынам паказьнік гаворыць нам, што інтэрпэляцыі ахопліваюць усе бакі жыцьця беларускага сялянства ў Заходняй Беларусі.

Пасланая самім інтэрпэляцыям прадмова „ўводзіць іх у пэўныя гістарычныя рамкі“. Яна ясна *адчыняе* прычыну імкненьня польскіх аграрыяў і буржуазіі на польскія тэрыторыі і гісторыю беларуска-польскіх узаемаадносін.

Інтэрпэляцыі з усёй яскравасьцю расчыняюць хлусьлівасьць буржуазіі. Яны паказваюць кошт абяцанкаў буржуазіі пачынаючы ад *вазваній* Пілсудзкага ў 1919 г. і 1920 і канчаючы завярэньнем і дэкларацыямі здрадніцкай ППС.

Мы павінны аднесьці інтэрпэляцыі ў разьдзел выключных па сваёй карысьці і важнасьці кніг. Абедзьве памянёныя кнігі раім набыць ува ўсе бібліотэкі, хаты-чытальні, школы. Кожны партыец, комсамолец павінен мець у сабе інтэрпэляцыі для таго, каб у штодзённай працы азнаёміць працоўныя масы з запраўдным становішчам рабочых і сялян у Заходняй Беларусі.

Адказны рэдактар **Р. Шукевіч-Трацьцякоў.**

Галоўлітбел № 25251 Менск, 2 друк. БДВ. Надрукав. 12.500.